# МЕНСКАЯ ГРАМАДА

Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта

№ 1
ТРАВЕНЬ 1993 г.
Кошт – 5 рублёў


# Мы выйшлі шчыльнымі радамі...

## (Сьвяткаваньне 75-х угодкаў БНР)




"Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны народ і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай". Семдзесят пяць гадоў назад гэтыя словы ўрачыста прагучалі ў Трэцяй Устаўной Грамаце, якую прыняла Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Але разьвінуцца незалежнай дзяржаўнасьці нашае Бацькаўшчыны ў той час не было наканавана. Варожыя сілы абрынуліся на яе, задушылі, растапталі. Край зноў апынуўся ў ярме, у цемры чужацкага панаваньня. Доўжыліся цэлыя дзесяцігодзьдзі нечуваных зьдзекаў, гвалту, нішчэньня нацыянальнае сьвядомасьці беларускага народа, яго лепшых сыноў, яго мовы, культуры. Брудам, паклёпам абліваўся і сам факт абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

І усё ж настаў час, калі зерне, кінутае ў раьлю беларускімі патрыётамі, праз дзесяткі гадоў дало свае ўсходы, хоць цемрашальныя сілы й сёньня імкнуцца заараць іх сваім шавіністычным плугам. Гэта ня толькі камуністыленінцы, але і ўсялякія "славянскія саборы", "союзы" і сам д'ябал ведае хто яшчэ. Ужо адзін той факт, што камуністычныя афіцыйныя ўлады Беларусі праігнаравалі ўрачыстасьці з нагоды 75-годзьдзя абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, сьведчыць сам за сябе. Не па нутры ім гэтыя ўгодкі, ім больш да спадобы "великая октябрьская".І усё ж урачыстасьці адбыліся. Іх наладзілі дэмакратычныя патрыятычна-незалежніцкія сілы. Быў распрацаваны шэраг мерапрыемстваў -- ушанаваньне памяці дзеячоў Беларускай Народнай Рэспублікі і змагароў за яе незалежнасьць, навуковая акадэмія ў Доме літаратара, адкрыцьцё надмагільнага помніка братам Луцкевічам у Вільні і інш. Праўда, не ўсё ўдавалася зрабіць так, як меркавалася. Гарадзкія ўлады не дазволілі ўстанавіць мемарыяльную дошку на доме N 9 па вуліцы братоў Луцкевічаў (былая Валадарскага), дзе была прынята 24 сакавіка 1918 года Трэцяя Устаўная Грамата. У тэатры оперы і балету, дзе меркавалася правесьці ўрачысты вечар 25 сакавіка, напярэдадні бышцам здарыўся пажар. Таму вечар адбыўся ў значна меншай зале філармоніі, куды не змаглі трапіць многія з тых, хто жадаў.

З усіх мерапрыемстваў надзвычай уражальным і шматлюдным былі ўрачыстае шэсьце па праспекце Францішка Скарыны і маніфестацыя ў парку Янкі Купалы, у якіх удзельнічала каля дзесяці тысяч чалавек.

...Да адзінаццаці гадзін раніцы пляц Незалежнасьці перад Домам ураду ўжо быў запоўнены людзьмі. Луналі на ветры бел-чырвона-белыя сьцягі, штандары, харугвы. Людзі выстройваліся ў калоны. Першымі рушылі па праспекце шыхты Згуртаваньня беларускіх вайскоўцаў. Ішлі гарадзкія раённыя суполкі "Няміга", "Астрожскі", "Касьцюшка", "Вітаўт", "Каліноўскі" ды іншыя, ішлі маладыя людзі, гатовыя стаць на абарону сваёй Бацькаўшчыны. Ішлі калоны Беларускага Народнага Фронту, дэмакратычных партый, ішлі проста жыхары Менска. па дарозе да іх далучаліся ўсё новыя людзі. Ішлі спакойна, упэўненым крокам, як і належыць цывілізаваным людзям (без істэрычных выкрыкаў і заклікаў, як гэта было на дзень раней у час шэсьця манархакамуністаў пад іх чырвонымі і чорна-жоўта-белымі сьцягамі). У людзей быў сьвяточны, узьнёслы настрой, яны былі агорнуты пачуцьцямі ўпэўненасьці ў зьдзяйсьненьні гістарычнае справядлівасьці.

З праспэкта Францішка Скарыны паток людзей стаў уліваццa ў парк імя Янкі Купалы. Там ён расьцёкся вакол помніка народнаму песьняру, наш бронзавы геній ці не ўпершыню апынуўся ў акружэньні такой масы людзей. І гэта было надзвычай сімвалічна, калі прыгадаць словы паэта-патрыёта: "З цэлым народам гутарку весьці..."

Тут, каля помніку Янку Купалу, працягвалася сьвята. Выступалі прамоўцы -- народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Зянон Пазьняк, Лявон Баршчэўскі, Алег Трусаў, Валянцін Голубеў, намеснік старшыні Менгарвыканкама Анатоль Гурыновіч, пісьменьніца Вольга Іпатава, прафесар Мікола Савіцкі, навуковец Іван Саверчанка і шмат хто іншы. Яны гаварылі пра гістарычнае значэньне для Беларусі акту 25 Сакавіка, пра сеньняшні стан Беларусі пасьля развалу савецкай камуністычнай імперыі, пра тое, што трэба рабіць, каб наша Бацькаўшчына набыла сапраўдную незалежнасьць, пра ўсё тое, што набалела ў сэрцы кожнага. Чуліся патрабаваньні аб адстаўцы прэм'ера Кебіча, пра яго антысуверэнную дзейнасьць. Мітынг завяршыўся вялікім канцэртам.

Зь вялікім уздымам і на высокім узроўні адбыўся ўрачысты вечар 25 сакавіка ў зале філармоніі.

На сьвяткаваньні 75-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі былі і госьці з замежных краін: Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч (ЗША), а. Аляксандр Надсан зь Вялікабрытаніі, гісторык Юрка Туронак з Польшчы, дырэктар беларускай філіі радыё "Свабода" Вячаслаў Станкевіч і супрацоўнік гэтага радыё Багдан Андрусішын з ФРН, Мікола Шуста з Канады, госьці з Масквы, Вільні, Беластока. Былі атрыманы віншавальныя тэлеграмы ад беларускіх арганізацый і згуртаваньняў у Аўстраліі, Канадзе, Вялікабрытаніі і іншых краінах.

**Кар. "Менскае грамады".**

## Шаноўныя чытачы!

Сёньня мы аддаём у вашы рукі першы нумар новае палітычна-грамадзкае й культурна-асьветніцкае газэты "Менская грамада". Пакуль што яна будзе выходзіць адзін раз на месяц, а пасьля, пры больш спрыяльных матэрыяльных варунках, перыядычнасьць яе будзе часьцейшая.

Што ж мяркуем прапаноўваць чытачам на яе старонках? Гэта будуць матэрыялы пра тое, чым жыве сёньня наша Беларусь -- аб'ектыўнае асэнсаваньне палітычных падзей і зьяў грамадзкага жыцьця, асьвятленьне дзейнасьці палітычных арганізацый і поступу нацыянальнага адраджэньня, ролі ў ім культуры, асьветы, рэлігіі. Газэта будзе рашуча змагацца супраць усялякіх праяў шавінізму, нацыянальнага нігілізму, нацыянальнай і рэлігійнай варожасьці, любых злачынных дзеяньняў супраць незалежнасьці нашае дзяржавы. Ня будзе забыта й тэма адраджэньня агульначалавечай маралі, духоўнасьці, гуманнасьці ў грамадзтве.

Складаны, змрочны час перажывае цяпер наша беларуская Бацькаўшчына. Яшчэ далёка не стабілізаваўся яе суверэнітэт, паглыбляецца крызіс у эканоміцы, працягваецца эскалацыя цэнаў, імкліва расьце колькасьць людзей бядотнага стану, у грамадзтве адрынуты асновы маралі. нарастаюць хвалі антыбеларускага экстрэмізму. На крызісным становішчы намагаюцца пагрэць рукі розныя мафіёзныя групоўкі. Але мы верым у лепшую будучыню. Толькі за яе трэба змагацца -- разам, адзінай, згуртаванай грамадой дэмакратычных сіл. Толькі грамадою, не шкадуючы высілкаў і імпэту, не губляючы надзеі і веры, мы зможам выйсьці з цемры і хаосу да сьвятла, у сваю незалежную будучыню.

Жыве Беларусь!

**Рэдакцыйная рада "Менскае грамады".**

## Пісьменьнікі сказалі -- не!

5 красавіка адбылося пашыранае пасяджэньне Рады Саюза пісьменьнікаў Беларусі. На ім абмяркоўвалася палітычнае становішча ў Беларусі, якое склалася ў сувязі з намаганьнямі ўрада Рэспублікі Беларусь і яго прэм'ера В. Кебіча да заключэньня з Расеяй вайсковага саюза, уцягненьня нашай дзяржавы у т. зв. сістэму калектыўнай бясьпекі.

Рада СП Беларусі і прысутныя па пасяджэньні пісьменьнікі ў сваёй заяве выказалі рашучы пратэст супраць авантурных намаганьняў урада Кебіча падпарадкаваць нейтральную, бязьядзерную Беларусь палітыцы імперскіх колаў Масквы, зрабіць яе зноў магчымым баёвішчным полем паміж Усходам і Захадам.

Пры галасаваньні ўстрымаўся толькі адзін Алесь Савіцкі. А таварыш В. Мысьлівец палічыў за лепшае адмоўчацца, не прагаласаваў ні "за", ні "супраць".

**Кар. "Менскае грамады"**

# Толькі поўная незалежнасьць

«...Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасьць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаваньне, і добрую славу нашаму народу». Гэтыя Купалавы словы, сказаныя ў 1918 годзе, калі пачынальнікі беларускага адраджэньня XX стагодзьдзя натхняліся ідэямі Беларускай Народнай Рэспублікі, глыбока западаюць у душу кожнага беларуса цяпер, калі Рэспубліка Беларусь пачынае свой гістарычны шлях да поўнай дзяржаўнай незалежнасьці. Іскры, якія ўзьлятаюць угару -- згараюць, ідэі, што пракладаюць шлях у грамадзкім жыцьці -- становяцца пуцяводнымі зоркамі. З абуджэньня грамадзкай зацікаўленасьці да пошуку такіх ідэй, якія служаць стварэньню нацыянальнага беларускага сьвету, пачалося ў сярэдзіне 80-ых гадоў сёньняшняе беларускае адраджэньне.

Аднак да гэтага часу не існуе дзейснай філасофска-прававой канцэпцыі адраджэньня незалежнай Беларусі, адсутнічае сістэмны падыход да вырашэньня надзённых грамадзкіх праблем. Тым ня менш адзначанае вышэй вырашыцца, калі зацікаўленыя дзяржаўныя і грамадзкія дзеячы, актывісты патрыятычных дэмакратычных арганізацый на аснове сістэмнага аналізу, зыходзячы з інтарэсаў народа Беларусі, удакладняць сваё бачаньне будучыні незалежнай дзяржавы, спрагназуюць мадэль яе сацыяльна-эканамічнага, грамадзка-палітычнага і нацыянальна-культурнага разьвіцьця.

Пачатак гэтай грамадзка значнай працы пакладзены ў шэрагу публікацый на тэмы адраджэньня Беларусі, якія ўбачылі сьвет у апошні час, а таксама знайшлі адлюстраваньне ў выступленьнях і распрацоўках заканадаўчых актаў апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі. Аднак сёньня паўстае задача сфармаваць ініцыятыўную групу, якая распачне працу над закончанай у сваёй аснове філасофска-прававой канцэпцыяй адраджэньня незалежнай Беларусі. На нядаўна праведзенай па пачыну менскай сацыял-дэмакратычнай грамады з шырокім удзелам грамадзкасьці канферэнцыі, якая і мела адпаведнае найменьне, такая ініцыятыўная група склалася.

Неспадзявана для значнай колькасьці грамадзян Рэспубліка Беларусь заявіла пра сябе, як суверэнная дзяржава. Нечакана для тых, хто ня ведаў, што над Бацькаўшчынай, на жаль, не заўсёды ўзыходзіла сонца волі і незалежнасьці, а таксама для тых, хто спадзяваўся на канчатковае вынішчэньне ідэі аднаўленьня дзяржаўнасьці, культуры і мовы беларускага народа. Аднак, як вядома, ідэі незалежнасьці, закладзеныя ў прадмовах да кніг Францішка Скарыны, Статуце ВКЛ, публіцыстыцы Кастуся Каліноўскага, у «нашаніўскай» літаратуры, Статутных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі, аказаліся трывушчымі і прыцягальнымі для грамадзкасьці Беларусі і знайшлі адлюстраваньне ў адраджэнскім руху 80-ых гадоў. Больш таго, апошні «бэсэсэраўскі» Вярхоўны Савет, лічачыся з сілай гэтых ідэй і іх носьбітаў, прыняў у 90-92-ія гады шэраг нарматыўных актаў (найперш Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, якая мае канстытуцыйную моц), што вылучылі нашу Бацькаўшчыну ў лік еўрапейскіх незалежных дзяржаў.

Калі «вылічыць» уладныя структуры Рэспублікі і сацыяльна-палітычныя групоўкі, якія маюць рэальны ўплыў на развіцьцё грамадзкіх працэсаў у Беларусі, дык гіпатэтычнае «дрэва ўлады» выглядае па зыходзячай лініі наступным чынам:

-- апарат Савета Міністраў, міністэрстваў і ведамстваў («партыя Кебіча»);

-- Вярхоўны Савет, яго Прэзідыум разам з «незалежным» Станіславам Шушкевічам і тымі групамі дэпутатаў, якія імі «улашчаны»;

-- дырэктарска-старшынёўскі корпус і ствараемыя імі эканамічныя ды палітычныя структуры;

-- легалізаваныя структуры былой «ценевай» эканомікі, уладальнікі прыватнага, у т. л. і «прыхапізаванага» капіталу;

-- мясцовыя органы дзяржаўнага кіраваньня, якія на месцах зрасьліся з дзьвюма вышэй азначанымі сацыяльнымі групоўкамі;

-- апазіцыя ў Вярхоўным Савеце, дэмакратычныя партыі і рухі;

-- «чырвоныя», «чырвона-карычневыя» і іншыя варожыя да незалежнай Беларусі сацыяльна-палітычныя групоўкі;

-- палітычныя аб'яднаньні, якія зьяўляюцца марыянеткамі постімперскага цэнтра, але, на жаль, рэальна ўплываюць на кансалідаваныя групы чыноўнікаў, а перш за ўсё у структурах войска, дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, дыпламатычных ведамстваў і інш.;

-- арганізацыі, якія ўзьнікаюць пры садзеяньні «дырыжораў» з-за бугра, як новыя цэнтры духоўна-культурнага і палітычнага ўплыву на грамадзян Беларусі (на глебе пашырэньня «прапольскага» каталіцызму і «прарасейскага» праваслаўя і інш.).

На жаль, т. зв. «трэцяя» і «чацьвёртая» галіны ўлады: незалежная судовая сістэма і вольны рынак друку -- знаходзяцца пакуль у эмбрыянальнай стадыі разьвіцьця. Можна пры гэтым нагадаць хоць бы пра апошнія рашэньні Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі на карысьць раскрадальнікаў шматмільярднай дзяржаўнай маёмасьці (напрыклад, па справе былога каманднага пункта армій Варшаўскага дагавору пад Ваўкавыскам). Або пра факт вынясеньня на разгляд Вярхоўнага Савета праекта Закона аб судаўладкаваньні і статусе народных судзьдзяў, які, калі будзе прыняты, перакрэсьліць судовую рэформу, якая яшчэ і не пасьпела пачацца. Або пра гатоўнасьць саўмінаўскіх выданьняў «взять под козырек», калі «зьверху» прапануецца матэрыял тыпу «Наш Пётр Міронавіч».

Відавочна, што ў Рэспубліцы мае месца крызіс улады: усе тры яе галіны або «ня хочуць», або ня ў стане выконваць свае функцыі, а тым часам некаторыя структуры ўлады імкнуцца да яе ўзурпацыі, перавышаючы свае паўнамоцтвы і дапускаючы злоўжываньні. Палітычная арыентацыя і адпаведна палітычны курс Старшыні Вярхоўнага Савета застаецца загадкай для большасьці грамадзян Рэспублікі. То Станіслаў Шушкевіч заяўляе, што ён «народнафронтавец на 95 працэнтаў», то што ён зьяўляецца прыхільнікам сацыял-дэмакратычнага курсу, але «без ухілу ў бок нацыяналізму» (?!), то заклікае да згоды ўсіх з усімі, г. зн. нікога ні з кім (бо няма «платформы» згоды), «аддаючы» тым часам ключавыя пасады ў Вярхоўным Савеце і фармуемых ім структурах выключна прадстаўнікам кампартыйнай наменклатуры.

З другога боку, Вячаслаў Кебіч выказваецца так, што ўзьнікае пытаньне: ці ня супраць дзяржаўнасьці Беларусі кіраўнік яе ўраду? Выступаючы перад вайскоўцамі ў Віцебску 5 сакавіка 1992 года, Вячаслаў Кебіч сказаў: «...если бы органы безопасности Советского Союза стояли как надо на страже соблюдения закона, то достаточно было бы одной вашей роты, чтобы этих пущистов взять в затылок и кончить весь этот переворот. Но я так понимаю, что и разведка, и органы безопасности, и мы не понимали, что мы делали. Вот ЧП и состоялось. ЧП в Беловежской пуще». (газэта «Выбар» N 6, 1992 г.). У іншым выпадку Старшыня Савета міністраў заяўляе: «Не поверите, но я с самого начала был убежден в провале горбачевских реформ, ибо они строились по изначально ложной идеологии...» (З публ. «Наш Петр Миронович»). А мы спытаемся ў сябе: дзе ж мараль прэм'ера, які паўтара года, калі яшчэ існаваў СССР, паслухмяна выконваў, пры яго тагачасным меркаваньні, заснаваныя на «ложной идеологии» дырэктывы цэнтра?

Сацыяльна-палітычны «партрэт» грамадзтва Беларусі ўсё яшчэ выглядае даволі змрочна. Аднак варта нагадаць: эвалюцыйны шлях станаўленьня Беларускай дзяржавы -- адзіна вартасны і прыдатны. Іншая справа, што трэба выспельваць эвалюцыйныя працэсы, прагназаваць ход падзей, а г. зн. «бачыць» «партрэт» незалежнай Беларусі. Апошняе надзвычай важна таму, што ўсяго за два з паловай гады апазіцыя ў Вярхоўным Савеце, шэраг дэмакратычных аб'яднаньняў Рэспублікі практычна вычарпалі намечаную на «пяцігодку» і на перспектыву праграму сваёй дзейнасьці.

Наменклатурную сістэму ўлады, якая, перагрупаваўшыся, працягвае займаць вядучыя пазіцыі ў Рэспубліцы, можна і трэба разбураць, аднак жа «не до основания», а шляхам своечасовай замены яе структур на дэмакратычныя і адданыя Беларускай дзяржаве. У шэрагу выпадкаў гэта можа быць гнуткая палітыка ланцуговага ўзаемадзеяньня з дзяржаўнымі і сацыяльна-палітычнымі структурамі, зь якімі часова супадаюць мэты. Шматабяцальным выглядае і такі падыход да зьдзяйсьненьня палітычных акцый, як выкарыстаньне супярэчнасьцяў паміж палітычнымі ўтварэньнямі і групоўкамі, а часам і рознымі канкуруючымі між сабою галінамі ўлады:

-- паміж выпеставанай былым «цэнтрам» кампартыйнай наменклатурай, якая адчула смак «незалежнасьці», і постімперскім «цэнтрам»;

-- паміж «партыяй Кебіча» і значнай колькасьцю «цэнтрысцкіх» дэпутацкіх груп у Вярхоўным Савеце, у т. л. і з акружэньня Старшыні ВС;

-- паміж дырэктарска-старшынёўскім корпусам і мясцовымі органамі дзяржаўнага кіраваньня, а таксама апаратам ураду;

Калі грамадзтва Беларусі зьберажэ і ўмацуе на працягу першых крытычных 10-15 гадоў незалежную дзяржаву, то далей працэс дзяржаўнага будаўніцтва Бацькаўшчыны, як і ў іншых краінах, можа пайсьці ў рэжыме «аўтапілота». Бо за гэты час узьнікнуць сацыяльныя групы грамадзян Рэспублікі, якія стануць выконваць ролю гаранта стабільнасьці ў разьвіцьці суверэннай дзяржавы: сфармуецца «сярэдні клас», прадстаўнікі якога, калі будуць мець «галаву на плячах», аддадуць даніну пашаны краіне-карміцельцы; у структуры дзяржаўнай улады і кіраваньня прыйдуць служачыя-«дзяржаўнікі» (а не «временщики», як цяпер); вырасьце пакаленьне сьвядомых беларусаў зь ліку тых, хто ўдзельнічае ў працэсе беларусізацыі сістэмы навучаньня...

Каб з нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьцю Беларусі не сталася так, як з каронай, асьвечанай па ўсіх сярэднявечных правілах для каранацыі Вітаўта і выкрадзенай ворагамі беларускай дзяржаўнасьці, варта яшчэ раз прыгадаць словы Янкі Купалы:

«Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў» (З прадмовы на 15-годзьдзі літаратурнае працы).

**Яўген Цумараў,**
**народны дэпутат Беларусі.**

# *За адраджэньне роднай мовы й культуры*

З нагоды 3-іх угодкаў прыняцьця Закону Рэспублікі Беларусь аб мовах 25 студзеня 1993 г. адбылася пашыраная кансультатыўная нарада дэмакратычных і патрыятычных арганізацый Беларусі, на якой абмяркоўвалася пытаньне «Нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі -- справа гонару і сумленьня кожнага грамадзяніна Рэспублікі». На нарадзе была прынята заява пра поўную згоду са статусам беларускай мовы, як адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы. Нарада выказала рашучы пратэст у сувязі з імкненьнем пэўных палітычных груповак і некаторых сацыяльна-абмежаваных груп дыскрэдытаваць Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і перашкодзіць яго ажыцьцяўленьню.

Нарада прадстаўнікоў дэмакратычных сіл заклікала ўсіх сумленных грамадзян Беларусі падтрымаць яе патрабаванні да Врхоўнага Савета і Урада Рэспублікі:

не дапусьціць заканадаучага абмежаваньня функцый беларускай мовы, як адзіна дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь, пры адначасным забесьпячэньні патрэбаў нацыянальна-культурнага разьвіцьця ўсіх нацыянальных супольнасьцяў Беларусі;

пасьлядоўна выконваць палажэньні Закона аб мовах, аб адукацыі і культуры, Дзяржаўнай праграмы развіцьця беларускай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь з тым, каб ва ўсіх галінах грамадзка-палітычнага жыцьця нацыянальная мова займала пачэснае месца; выяўляць і даваць наалежную ацэнку ўсім фактам палітыкі русіфікацыі на дзяржаўным узроўні;

адмовіцца ад выкарыстаньня ў эфіры новага каналу тэлебачаньня на базе Санкт-Пецярбурскага тэлепаказу, калі не створана належных умоў для развіцьця ўласнабеларускага эфіру, калі не трансьлююцца перадачы зь Вільні, Кіева і іншых сумежных краін;

усямерна падтрымліваць дзейнасьць патрыятычных дэмакратычных арганізацый Рэспублікі, накіраваную на адраджэньне нацыянальнага жыцьця, дамагацца стварэньня нацыянальнай сістэмы адукацыі і інфармацыі, развіцьця і ўзбагачэньня беларускае культуры і мовы, стварыць міжведамасныя грамадзка-дзяржаўныя камісіі з прадстаўніцтвам нацыянальна-патрыятычных і іншых дэмакратычных арганізацый для правядзеньня атэстацыі кіроўных кадраў у галіне адукацыі, інфармацыі і іншых сферах сацыяльна-культурнага комплексу з мэтай забесьпячэньня патрабаваньняў Закона аб мовах па пераводзе справаводзтва на дзяржаўную мову;

зьвярнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі на недапушчальнасьць любых формаў зьнявагі дзяржаўнай беларускай мовы -- у выпадку парушэньня гэтага патрабаваньня прыцягваць вінаватых да адказнасьці.

Заяву падпісалі прадстаўнікі Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны, ТБМ імя Францішка Скарыны, Цэнтральнай Рады БСДГ, Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, Партыі народнай згоды, Нацыянальна-Дэмакратычнай партыі, Беларускай сялянскай партыі, Згуртаваньня беларускай шляхты, Саюза пісьменьнікаў Беларусі.

А ЗДАНЬ ЯШЧЭ БЛУКАЕ...

## Сядлайце коней, «товарищи»!

У дні, калі авіяцыя аб'яднаных сіл ААН нанесла ўдар па ракетных аб'ектах іракскага дыктатара Садама Хусэйна з мэтай прадухіленьня ягонае агрэсіі супраць суседніх краін, чыкінскія малойцы з «координационного комитета общественных объединений, составляющих народное движение Беларуси» выказалі свой пратэст і заявілі, што іхні камітэт «решительно осуждает агресию и требует немедленно прекратить войну против Ирака». Гэткага ж пратэсту яны запатрабавалі і ад урада Беларусі.

Што ж, сядлайце коней, таварышчы, і гайда на дапамогу розным садамам! А дзеля ўслаўленьня вашых паходаў не забывайце прыхапіць з сабою ў абоз і вашага чырвонага барда В. Мысліўца.

## Хто ж наступны?

Узьвелічэньне культу Суворава, відаць, адна з галоўных мэтаў у дзейнасьці вайсковых уладаў Рэспублікі Беларусь. Інакш, чым можна вытлумачыць тыя «торжества», якія былі праведзены ў лютым у Менску, на якіх услаўляўся гэты герой расейскай вялікадзяржаўнасьці, захопніцкіх паходаў і бязьлітаснага вынішчэньня тых, хто змагаўся за волю сваіх краін.

Хто ж будзе наступным кумірам для ўшанаваньня? Мо Мураўёў-вешальнік, крывавы кат, душыцель нацыянальнага паўстаньня ў 1863-1864 гг. на Беларусі? Дарэчы, і нагода ёсьць -- 130-годзьдзе ягоных «подзьвігаў».

## Дачы для генералаў

Як паведаміла ў сваёй перадачы 2 сакавіка маскоўскае тэлебачаньне «Астанкіна», паблізу беларускага Віцебска поўным ходам вядзецца будаўніцтва 33-х дачаў для генералаў расейскай арміі.

Такім чынам генералаў на нашай зямлі прыбывае. А мо ўжо хопіць? Дастаткова было б аднаго Усхопчыка зь яго літоўскім «вопытам» вядзеньня вайны супраць народа.

## Запаведнік камунізму ў Еўропе

У Менску ў сакавіку адбыўся пленум цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Беларусі -- беларускага філіяла КПСС. Удзельнікі яго заклікалі камуністаў ствараць партыйныя арганізацыі, а 25 красавіка правялі аб'яднаўчы зьезд КПБ-ПК 5. Гэтая партыя будзе дамагацца вяртаньня ёй нацыяналізаванай маёмасьці.

Відаць, ці ня ў сувязі з аднаўленьнем дзейнасьці КПБ, міністр абароны Казлоўскі прапанаваў Вярхоўнаму Савету пераглядзець пастанову, згодна з якой вайскоўцам забаронена быць членамі палітычных партый і рухаў. Вельмі верагодна, што мы будзем мець сваю «чырвоную» армію.

## Новыя Паўлікі Марозавы?

Напярэдадні 8-га сакавіка менскія камуністы распаўсюдзілі шэраг сваіх улётак і правялі «мероприятия». Намагаліся, каб звону было багата. У гэтым нічога дзіўнага няма. Зьдзіўляе толькі, што ў свае палітычныя гульні яны ўцягнулі нават малалеткаў, якіх вывелі на вуліцу з сьцягамі і плакатамі. Ці не новых Паўлікаў Марозавых спадзяюцца выхаваць гэткімі «метадамі»?

**Тадэвуш Шпігановіч**

## *Жыве Беларусь!*

*Жыве Беларусь -- дарагая Айчына,*
*Для нас, беларусаў, адзіная ў сьвеце,*
*Мы ў сэрцах яе бераглі, як сьвятыню,*
*Ня здрадзілі ёй у часы ліхалецьцяў.*

*Жыве Беларусь! Незалежнай дзяржавай*
*Дастойна пасад свой займае пачэсны*
*З сьвятою Пагоняй і звонкаю славай,*
*З прыгожаю марай і роднаю песьняй.*

*Жыве Беларусь, бо жыве наша мова,*
*Вядомая сьвету з часоў Рагвалода,*
*Яднае ўсіх нас беларускае слова,*
*Што звала да працы, склікала ў паходы.*

*Жыве Беларусь -- наша родная маці,*
*Мы зь ёю адзіным павязаны лёсам --*
*Датуль ёй ня страшны любыя напасьці,*
*Пакуль мы імя яе слаўнае носім.*

**в. Рамель,**
**Столінскі раён.**

# Распараджацца сваім лёсам

Другі зьезд Беларускае сацыял-дэмакратычнае Грамады прыняў праграму партыі «Крок за крокам» і новы статут. Мэтамі партыі зьяўляюцца: сьцьвярджэньне правоў і свабод чалавека, стварэньне шматукладнай, рынкавай, сацыяльнай і экалагічнай эканомікі, пабудова салідарнага грамадзтва, незалежнай, дэмакратычнай, прававой і сацыяльнай Беларускай дзяржавы, адраджэньне духоўнасьці, здаровых народных асноў жыцьця, такіх натуральных чалавечых каштоўнасьцяў, як сям'я, дом, добрасуседзтва, працавітасьць. Заяўлена, што партыя выконвае тры функцыі: ліберальную, уласна сацыял-дэмакратычную і патрыятычную. Патрыятычная функцыя бачыцца ў абароне суверэнных правоў народу Беларусі, беларускай дзяржавы, яе незалежнасьці.

Вышэй названыя мэты партыі ў прынцыпе не выклікаюць сумненьня. Разам з тым узьнікае лагічнае пытаньне: ці магчыма дасягнуць дэкляраваных мэтаў з улікам рэальнага сёньняшняга стану грамадзтва, а менавіта, узроўню нацыянальнае сьвядомасьці большае часткі беларусаў — ахвяраў асіміляцыйнае палітыкі дзяржаў, пад уціскам якіх была Беларусь на працягу стагодзьдзяў?

Стварыць сучаснае грамадзтва можа толькі духоўна вольны народ, які аб'яднаны і акумуляваны агульнанацыянальнымі ідэямі ў рэчышчы еўрапейскага разуменьня развіцьця сучаснай цывілізацыі. Становішча ж беларусаў унікальнае: наша нацыя разьвівалася пад прэсам і ў панцыры чужой культуры, чужой гісторыяграфіі, чужамоўнага асяродзьдзя. Усё гэта прыніжала чалавечую годнасьць беларуса. Таму для нас на першае вырашальнае месца выходзяць дзьве асноўныя гістарычныя задачы: «За нацыянальнае адраджэньне народу», «За суверэнітэт».

Зыходзячы з гэтага, мною ў пачатку зьезду ў пісьмовай форме была зроблена прапанова ўключыць у першы разьдзел статута «Мэты, метады й прынцыпы дзейнасьці БСДГ» наступнае дапаўненьне: «Адраджэньне нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народу, выхаваньне яго на грунце нацыянальнай і сусьветнай культуры, ажыцьцяўленьне спаконвечнай мары кожнага народу -- пабудова суверэннай дзяржавы». У разьдзел праграмы «Нашы мэты» прапанавалася дадаткова ўключыць: «Адраджэньне беларускай нацыі на ніве асьветніцтва й адукацыі», а ў якасьці патрыятычнай функцыі -- «ставім мэтай спрыяць высьпяваньню (адраджэньню) беларускай нацыі». Гэтыя дапаўненьні былі адхілены большасьцю дэлегатаў зьезду.

Ці заўсёды большасьць мае рацыю? Агульнавядома, што толькі духоўнае адраджэньне нацыі прывядзе да адраджэньня эканамічнага. БСДГ і іншыя партыі выканаюць свае гістарычныя задачы толькі тады, калі ўся іхняя дзейнасьць будзе скіравана на нацыянальнае адраджэньне (гісторыі, культуры, мовы) і пабудову дзяржаўнасьці. У адваротным выпадку сьвядома ці несьвядома яны ня будуць спрыяць развіцьцю аб'ектыўных працэсаў у Беларусі. Трэба памятаць, што дзяржаўная незалежнасьць у жыцьці кожнага народа зьяўляецца вышэйшым дасягненьнем. Для малых народаў заваёва незалежнасьці -- гэта вялікае шчасьце. Усім вядома, што многія народы, якія не здабылі сваёй дзяржаўнасьці, зьніклі з небасхілу гісторыі. Гістарычны шанц для Беларусі трэба выкарыстаць аптымальна. Толькі незалежная Беларусь зможа сама кіраваць і распараджацца сваім лёсам.

Сьвядома ці па недасьведчанасьці многія блытаюць нацыянальнае адраджэньне з нацыяналізмам у марксісцкай версіі. Пасьля развалу СССР запушчаны адзін са штампаў-міфаў, быццам за межамі Расеі крыўдзяць расейцаў, ушчамляюць іх правы. Гэткага ў Беларусі не назіраецца, няма. Ўсьць іншае -- нежаданьне тых, каму Беларусь дала прыстанішча на сваёй зямлі, бачыць беларуса, які хоча жыць незалежна, у сваім роднамоўным асяродзьдзі, сваёй культуры; нежаданьне далучыцца да дзяржаўнай беларускай мовы і праз яе да беларускай культуры. Недвухсэнсоўныя закіды гучаць і з-за нашай усходняй мяжы, што беларусы добраахвотна ўспрынялі мову «старэйшага брата», а сваю занядбалі. Мо хто ў сьвеце й паверыць гэтай хлусьні, толькі ня мы, бо добра ведаем гэтую «добраахвотнасьць». Яе ўсемагчымымі нялюдзкімі метадамі насаджалі ў нашым краі расейская царская і савецкая імперыі, каб дашчэнту загубіць нашу мову, культуру, звычаі, каб сьцерці з карты народаў сьвету самыя назвы Беларусь і беларусы.

**Мікола Савіцкі,**
**дэлегат 2-га зьезду БСДГ.**

# Заява сойму БНФ «Адраджэньне»

4 лютага 1993 г. на X сэсіі намэнклятурная большасьць, парушыўшы Закон і рэглямант, адмяніла Пастанову 25 жніўня 1991 г. аб часовым прыпыненьні дзейнасьці КПСС. Тым самым адбылася легалізацыя партыі, якая была і фактычна зьяўляецца сёньня кіруючай палітычнай сілай у дзяржаве. Гэтае рашэньне прыняў той Вярхоўны Савет, які антызаконна забараніў рэфэрэндум аб нечарговых выбарах. БНФ лічыць незаконнай рэанімацыю КПСС-КПБ і неправамоцнымі ўсе рашэньні Вярхоўнага Савету пасьля 29 кастрычніка 1992 г. -- з часу антыканстуцыйнай забароны рэфэрэндуму і ўзурпацыі ўлады камуністычнаю большасьцю.

Кіруючая намэнклятура на Беларусі пад выглядам пераходу да рынку, пры адсутнасьці законаў аб прыватызацыі і аб зямлі, рабуе народ, расьцягваючы дзяржаўную маёмасьць. Зроблены крок да намэнклятурнай дыктатуры, а ў выніку -- да зьнішчэньня сувэрэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі, да адмены статусу нэўтральнай краіны і заключэньня вайсковага саюзу з Расеяй, да немагчымасьці эканамічных рэформаў і дэмакратынага развіцьця, да спыненьня беларускага нацыянальнага адраджэньня. Кіруючыя колы рыхтуюць для Беларусі становішча расейскай калёніі ды ваеннага палігону.

БНФ заклікае ўсе дэмакратычныя сілы, усіх людзей Беларусі да пасьлядоўнай барацьбы з антынароднаю палітыкай камуністычнай намэнклятуры.

**13 лютага 1993 г.**
**г. Менск**

# Пра будучыню незалежнай Беларусі

27 лютага Менская гарадзкая арганізацыя БДСГ правяла канферэнцыю на тэму «Філасофска-прававая канцэпцыя адраджэньня Беларусі». Народныя дэпутаты розных узроўняў, філосафы, палітолагі, юрысты, прадстаўнікі грамадзкасьці і супрацоўнікі дзяржаўных установаў выступілі па асноватворных пытаньнях будучыні незалежнай Беларусі, яе сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і нацыянальна-культурнага развіцьця.

Была прынята пастанова наступнага зьместу:

прапанаваць адказным работнікам органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня Рэспублікі, навуковым работнікам, палітыкам, шырокай грамадзкасьці на аснове сістэмнага аналізу сацыяльна-эканамічных, нацыянальна-культурных, палітычных і іншых грамадзкіх праблем, якія паўсталі з абвяшчэньнем нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, прыступіць да распрацоўкі філасофска-прававой канцэпцыі адраджэньня незалежнай Беларусі, закрануўшы асновы яе дзяржаўна-палітычнай сістэмы, сацыяльна-эканамічнага ладу, а таксама нацыянальна-культурнага развіцьця грамадзтва;

выказаць трывогу ў сувязі з маючай месца практыкай прыняцьця законаў і іншых нарматыўных актаў Рэспублікі без дакладнага ўсьведамленьня таго, у якім напрамку разьвіваюцца грамадзкія працэсы ў Беларусі, што нярэдка прыводзіць да прававога бязладзьдзя, прававога нігілізму, служыць спрыяльнай глебай для злоўжываньня ўладай і ў канчатковым выніку наносіць грамадзтву вялікія маральныя і матэрыяльныя страты;

нацыянальна-дзяржаўная незалежнасьць, сацыяльная палітыка і сацыяльная эканоміка, свабода, дэмакратыя, салідарнасьць грамадзтва, духоўны дабрабыт асобы і нацыянальна-культурная еднасьць народа -- прынцыпы і каштоўнасьці, не да канца ўсьвядомленыя, ацэненыя і прынятыя грамадзтвам Беларусі. Неабходна зрабіць усё, каб яны ажыцьцявіліся, сталі набыткам народа Беларусі і стала замацаваліся ў сістэме і структуры дзяржаўнага ладу Рэспублікі.

На канферэнцыі была створана рабочая група па выпрацоўцы асноўных напрамкаў філасофска-прававой канцэпцыі адраджэньня незалежнай Беларусі. У склад яе ўвайшлі Радзім Гарэцкі --віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, старшыня рабочай групы, Уладзімір Конан -- доктар філасофскіх навук, Язэп Юхо -- доктар юрыдычных навук, Сяргей Законнікаў -- пісьменнік, Мікола Савіцкі -- прафесар, Міхась Чарняўскі -- кандыдат гістарычных навук, Анатоль Сідарэвіч -- гісторык, публіцыст, Алег Трусаў, Яўген Цумараў, Анатоль Вярцінскі, Мікола Крыжаноўскі --народныя дэпутаты Беларусі і іншыя -- усяго 18 чалавек.



Мал. А. Мечка. (Час. "Польска дзісь").

# Адбудоўваецца царква

Калісьці ў вёсцы Каралёў Стан Менскага раёна была Сьвята-Крыжаўзьдзьвіжанская царква. У 1936 годзе яе ня стала -- атэістычныя ўлады разбурылі сьвятыню.

Год назад была заснавана й зарэгістравана праваслаўная прыходзкая суполка Сьвята-Крыжаўзьдзьвіжанскай царквы ў Каралёвым Стане. Адразу паўстала пытаньне пра адбудову сьвятыні. Быў распрацаваны праект, аўтарам якога зьяўляецца архітэктар «Сьпецархпраекту» Ігар Дарэскі. Узначаліў будаўніцтва старшыня прыходзкай рады, дэпутат Бараўлянскага сельскага Савета Аляксандр Бардокаў. Але будаўніцтва замарудзілася, бо тых сродкаў, якія выдзеліў выканкам сельсавета і якія сабралі прыхаджане, не хапае.

Таму каралёвастанскія вернікі вымушаны прасіць дапамогі ў людзей з добрымі сэрцамі: хто колькі можа, ахвяруйце! Ахвяраваньні на абудову Крыжаўзьдзьвіжанскай сьвятыні з удзячнасьцю прымаюцца: у філіяле N 5987/070 Менскага аддзела Ашчаднага банка ў в. Калодзішчы (Радыёцэнтр). Рахунак N 10-5; асабіста ці паштовым пераводам па адрасу: 223027, п/а Гарадзішча, в. Каралёў Стан Менскага раёна, вул. 2-я Пасялковая, 22, А. А. Бардокаў (тэл. 90-72-25); казначэем прыходзкай рады В. В. Абрамавай (вул. Лугавая, 21, в. Каралёў Стан).

## Ларыса ГЕНІЮШ



***

*Тончуцца коні Тэўтонаў*
*На землях адвечных Прусаў --*
*Не ўстояць багам паганскім,*
*Скорацца пад прымусам.*

*Перун ім ня дасьць парадаў,*
*Бясьсільны перад аружжам.*
*Сваю прадыктуе «праўду»*
*Вораг хітры і дужы.*

*Дарма разьбіваюцца хвалі*
*Жалем пакутным аб бераг.*
*Забрала волю народа*
*Чужынская сіла і вера.*

*Вецер, што там блукае,*
*Плача праз ноч, як гусьлі:*
*«Дзе ж ваша мова жывая,*
*Дзе ж вашы песьні, Прусы?»*

*Душа ў няволі змаўкае,*
*Сканала ў пакутным лёсе.*
*І болю танюткае ноткі*
*Ад Прусаў не засталося...*

*...Але беларусы -- ня Прусы!*
*Нашаму слову ня ўмерці.*
*Забралі ў народа волю,*
*Ды мовы ня вырваць з сэрцаў!*

# Заява хрысьціянскіх дэмакратаў

Управа Беларускай Хрысьціянска-Дэмакратычнай Злучнасьці ў звароце да Вярхоўнага Савета выказала свой пратэст супраць намераў урада аб эканамічным і вайсковым саюзе з Расеяй. БХДЗ лічыць, што ўрад В. Кебіча ня здольны дзейнічаць у інтарэсах незалежнай нашай дзяржавы, аберагаць яе суверэнітэт. Таму выйсцем з гэтага можа быць толькі самароспуск Вярхоўнага Савета і выбары новага прафесійнага парламенту на аснове дэмакратычнага закона аб выбарах, стварэньне дзеяздольнага ўрада.

# Канферэнцыя НДПБ

3 красавіка адбылася IV канферэнцыя Нацыянальна-Дэмакратычнай партыі Беларусі (старшыня А. Апрышка). На ёй быў заслуханы і абмеркаваны даклад пра дзейнасьць партыі, зацьверджаны зьмены ў статуце, праведзены выбары кіраўніцтва партыі. Старшынёю абраны А. Апрышка, намесьнікамі -- В. Навуменка, М. Грынцэвіч і Г. Лецка. Абраны таксама склад Вышэйшай рады і Рэвізійная камісія.

Канферэнцыя прыняла заяву і зварот да беларускага народу, у якіх выказаны пратэст супраць палітыкі ўраду Рэспублікі Беларусь, накіраванай на ўцягненьне Беларусі ў эканамічны і вайсковы саюз (т. зв. сістэму калектыўнай бясьпекі) з Расеяй, на падначаленьне нашай дзяржавы імперскім імкненьням Крамля.

# Падсоўваюць рэнэгата

На палітычнай карце Беларусі летась зьявілася і зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі яшчэ адна арганізацыя -- «Славянский собор «Белая Русь». Яна адразу пастаралася зарэпрэзэнтаваць сябе публічна -- на мітынгі, склікаемыя камуністамі, прыходзіць пад чорна-жоўта-белымі манархічнымі сьцягамі. Але, каб больш поўна ўявіць сутнасьці «Белае Русі», зьвернемся да інтэрвью члена думы гэтай арганізацыі пана Сяргеева, якое ён даў газэце «Вячэрні Мінск» (17 чэрвеня). пан Сяргееў у ім падрабязна расказаў пра задачы арганізацыі, пра неабходнасьць аб'яднаньня ўсіх славян (рэанімацыю панславізма), пра дзяржаўнасьць рускай мовы ў Беларусі і інш. Асабліва ён пахваліў беларусаў, якія адракліся ад усяго беларускага і зрабілі выдатны ўклад у рускую літаратуру.

«Хочу подчеркнуть, -- сказаў ён, -- что в русской литературе существует целая плеяда гениальных людей, которые родом из Белоруссии, и которые свою любовь к Белоруссии принесли в русскую литературу. Такие, например, как Николай Лосский и Иван Солоневич».

Вось на асобе апошняга і варта спыніцца, каб паглядзець, што гэта быў за патрыёт Беларусі і як ён любіў яе. Зьвернемся да матэрыялу больш як паўстагадовай даўнасьці -- да артыкула А. Бужанскага, апублікаванага ў 2-м нумары часопіса «Калосьсе» за 1939 год, які выдаваўся ў Вільні.

«Аб Івану Саланевічу мала хто з Беларусаў што-колечы ведае, а ён цярпеў, працаваў, змагаўся й далей няўтомна змагаецца за сваю справу. Жыве ён у Бэрліне, а ў Сафіі выдае тыднёвік пад назовам «Наша газета», у каторым вядзе напружаную барацьбу з бальшавікамі пад сьцягамі вялікай і непадзельнай Расеі.

Чытачы «Калосься» падумаюць: -- тут нейкая няўвязка, нехта змагаецца з бальшавізмам, вельмі добра, але што-ж супольнага мае гэты расейскі чарнасоценец з беларускім народам?

Дык вось, у сваёй векапомнай працы «Россия в концлагере», у каторай ён надта маляўніча апісвае сваё прабываньне ў савецкім лагеры ў Карэліі й ўцечку адтуль, гэты дзеяч коратка й ясна падчыркнуў уласную беларускасьць і свае адносіны да Беларусаў і беларускай справы.

Аб двухтомнай кнізе Саланевіча пісаць ня будзем, у кожным выпадку, хто прыпамінае перадваенныя сшыткі «Нат Пінкертон кароль сышчыкаў», той будзе мець належнае прадстаўленьне аб літаратурных прыёмах і вартасьцях аўтара.

Важна тое, што ў першым томе «России в концлагере» ў кароткай дэкларацыі ён заяўляе: -- Я стопрацэнтовы Беларус і магу ганарыцца тым, што мяне ўзгадавалі па Пушкіну, ані на якімсьці Янку Купале, маю пагарду да патрыётызмаў у павятовым маштабе й да нацыянальнага будаўніцтва з соймам у Менску ці у Вільні. -- Апошняе, дзеля асаблівай кур'ёзнасьці й дзеля спадобы, ня вельмі вымагаючай, у сваёй масе, расейскай публіцы падана пабеларуску. Адным словам, прыпраўлена «з душком».

Бязумоўна, гэты вырадак не прачытаў аніводнага верша Купалы й ня мае мінімальнага паняцьця аб сучасным беларускім адраджэнскім руху, -- але сваю «прафэсарскую апінію» ён выражае дужа аўтарытэтна.

Наагул, выраднаў маем нямала, стагодзьдзі нацыянальнага зняпаду даюцца ў знакі, тым ня менш такіх тыпаў, як Саланевіч, афішуючыхся стопрацэнтавай беларускасьцю, трэба біць, прынамсі па брудных лапах. няхай ня думаюць, што калі яны знаходзяцца далёка ад беларускіх цэнтраў, дык маюць магчымасьць бясkарна ізрыгаць свае істінно-русскія блявоціны на беларускі народ.

Хто чытаў «Расею ў канцлагеры», прыпамінае, напэўна, што было духовым апірышчам аўтара падчас лагернага жыцьця. Гэта ягоны сын Юры ў мамэнты дэпрэсыі бацькі напяваў яму дзеля бадзёрасьці песьні Верцінскага.

Дробязь, але вымоўна характэрызуючая духовы клімат розных Саланевічаў. Беларуская музыкалёгія ні Верцінскага, ні падобных яму іншых шарманшчыкаў ня мае, таму, магчыма, для гэткае публікі тут недзе трэба шукаць жаролаў духовае непрымірымасьці.

Пасьля ўцечкі з лагеру, «наш герой» хутка заінсталяваўся ў расейскай эміграцыі -- падыйшоў пад колер. Пэўныя колы ўважаюць яго нават за нейкага аракула, іншыя ізноў называюць савецкім агентам і правакатарам. Зрэшты, гэта іх сямейная справа.

Арганізуе нацыянальны «трудавы» саюз новага пакаленьня --няхай арганізуе, палемізуе з Мілюковым -- няхай палемізуе, але былому савецкаму спэцу (праектаваў будову стадыёнаў Дынамо), а цяпер альфонсу расейскай эміграцыі рашуча забараняем паганіць беларускую справу. Можа свае жарты сьціраваць у іншы бок.

З узгляду на актуалізацыю беларускай справы, гэны цынічны рэнэгат (родам, здаецца, з Менска) можа рабіць спробы перакінуцца на беларускі грунт. Трэба, каб нашае грамадзтва добра запомніла ягонае прозьвішча.

Паўтараю: -- Іван Лукіянавіч Саланевіч».

Дык вось яно, аблічча аднаго з тых, «которые свою любовь к Белоруссии принесли в русскую литературу». Каментарыі, здаецца, тут непатрэбныя.

## III зьезд Таварыства беларускай мовы

26-27 сакавіка ў менскім Доме літаратара адбыўся III зьезд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. У яго працы ўдзельнічалі каля 200 дэлегатаў ад суполак ТБМ, а таксама прадстаўнікі ад многіх арганізацый. У парадку дня быў разгляд шэрагу найбольш важных праблем, у т. л. дзейнасьці Таварыства па ажыцьцяўленьні Закона аб мовах у Беларусі.

Даклад на зьезьдзе зрабіў старшыня Таварыства Н. Гілевіч, у абмеркаваньні яго выступілі Я. Цумараў, А. Трусаў, а. А. Надсан, а. Я. Матусэвіч, Ю. Хадыка, Я. Брыль, В. Вячорка, А. Мальдзіс, А. Лыч, М. Ермаловіч, П. Краўчанка, Э. Ялугін, С. Суднік, В. Адамчык, Г. Цыхун і шэраг іншых дэлегатаў зьезда.

Па абмеркаваных пытаньнях зьезд прыняў пастановы. Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь быў накіраваны пратэст супраць антыбеларускага апытаньня аб увядзеньні двухмоўя ў нашай дзяржаве і супраць вайсковага саюза з Расеяй, які вядзе да ліквідацыі суверэнітэту нейтральнай Беларусі. «Зьезд катэгарычна пярэчыць спробам уцягнуць Беларусь у вайскова-палітычны саюз з Расеяй. Досыць быць заложнікамі чужой палітыкі! Не -- войнам за чужыя інтарэсы! Так --свабодзе і незалежнасьці!» -- заявілі дэлегаты зьезда.

Старшынёю ТБМ імя Ф. Скарыны абраны народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

*Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта*
*«Менская грамада»*
**Заснавальнікі: Асацыяцыя беларускіх выданьняў ТБМ імя Фр. Скарыны, Віталь Скалабан, Алесь Траяноўскі, Яўген Цумараў і Уладзімір Ягаўдзік.**

*Аўтары допісаў адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, якая паведамляецца імі. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца й не высылаюцца назад аўтарам.*

**Галоўны рэдактар Алесь ТРАЯНОЎСКІ.**

**Адрас рэдакцыі і выдаўца: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэл. і факс 33-13-52.**
Газэта набрана й зьвёрстана на настольна-выдавецкім комплексе штотыднёвіка "Наша доля".
Наклад 3,5 тыс. паасобнікаў.
Друкарня „Перамога", г. Маладэчна.
Падпісана да друку 12 мая 1993 г.
Заказ N 551.